Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

10 - 16 кастрычніка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№41 (139)

ВІНШУЕМ СА ШЛЮБАМ!



6-я старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Іна: Маладзечна, 23 гады, рост 168, вага 59; любіць мульцікі пра ката Леапольда, увечары адпачывае з сябрамі пад спакойную музыку, нелюбімых спраў не мае.*

*Фота Ігара Карнея даслала сама ўдзельніца.*

## Нам патэлефанавалі

# Абраннікі народа просяць пра іх не пісаць

*МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму тут прайшла чарговая сесія гарсавета. Ардынарная, нічым не выдзеленая з мінулых і наступных.*

За дзень да яе нам прыйшло "запрашэнне". Хаця Закон "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", якім у гэтым выпадку мусім кіравацца не толькі мы, але і маладзечанскі гарсавет, не патрабуе ад любога выдання абавязковай акрэдытацыі пры гэтым самым савеце.

Тым не менш звычайны гараджанін змог спакойна прайсці на вышэйпамянёную сесію без якой-небудзь акрэдытацыі і на яго ўвагу ніхто не звярнуў. А мы скарысталі выпадак і папрасілі яго колькі слоў напісаць для газеты, аб чым вы маглі прачытаць у мінулым нумары "РГ" ("Вяртаем лепшыя часы").

А ў панядзелак у рэдакцыю патэлефанаваў старшыня гарсавета **Валерый Альшэўскі**, які пагабіцаў падаць на газету ў суд "за намёкі". Іх лідэр мясцовых народных абраннікаў убачыў у назве (аўтар пісаў аб тэмпах будаўніцтва жылля ў горадзе). Аказваецца "паміж радкоў" можна прачытаць, што кватэру старшыня атрымаў нібыта незаконна.

Далей старшыня гарсавета і адначасова загадчык аддзела гарвыканкома пагабіцаў пракансультавацца з адвакатамі і падаць на нас у суд. Застаецца пашкадаваць, што не зрабіў ён гэтага перад тым, як патэлефанаваць. І перад тым, як даслаць нам згаданае запрашэнне.

Рэдакцыя "РГ" лічыць, што пасля неабходнай паперы мы атрымаем так неабходную гарсавету



МАЛАДЗЕЧАНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ

222310, г. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 5, тэл. 7-00-65

26.09.97 № 63

Редактору "Региональной газеты".

Для присутствия Вашего крреспондента на сессии городского Совета депутатов необходимо подать заявку в президиум городского Совета депутатов.

Только после решения президиума об аккредитации журналистов они будут допущены на сессию горсовета.

Председатель городского Совета депутатов В.Е. Альшевский

акрэдытацыю. Наш карэспандэнт будзе ў першым радзе, а старшыня будзе ўдакладняць, каб мы не напісалі паміж радкоў.

Што тычыцца кіраўнікоў розных структур, асабліва прадстаўнікоў мясцовых уладаў, то яны заўсёды прыцягвалі да сябе цікавасць. Мы пісалі пра іх раней, будзем пісаць і надалей.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Чалавек года

### У Вялікабрытаніі Адама Мальдзіса ведаюць добра. Як і ў свеце

*АСТРАВЕЦ. Як нам паведамілі з Лондана, на мінулым тыдні чалавекам года прызнаны Адам Мальдзіс.*

Дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Скарыны, доктар філалагічных навук атрымаў гэтае званне за работу ў галіне культуралогіі. Сусветная грамадскасць цэніць яго, як відаць, болей за нашу.

*Аддзел інфармацыі.*

## Навіны

### Пасадзіў дзед міну

*АСТРАВЕЦ. У жыхара вёскі Міхалішкі ля самай хаты "расла" ... міна.*

Выявіў гэты трафей ён зусім нядаўна, калі корпаўся ў агародзе. Работнікі райваенкамата кваліфікавалі знаходку як мінамётную 82-міліметровую. Праляжала ў зямлі з часоў Другой Сусветнай вайны.

Мяркуецца, што работы па абясшкоджванні лягуць на плечы сапёраў адной з Лідскіх вайсковых часцей. І зоймуцца яны гэтай справай, як зазначыў райваенком **А. Чыграй**, неўзабаве, бо міна тоіць у сабе небяспеку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Вучні мяняюць дырэктара

*МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму ў СШ №12 быў дзень самакіравання.*

Школьная адміністрацыя разам з дырэктарам **Валянцінай Шульжыцкай** ператварылася ў "непаслухмяных дзетак", вучняў першых класаў. Тая ж доля напаткала і ўвесь настаўніцкі калектыў. Сапраўдныя вучні паспяшаліся заняць кабінеты дырэктара, завучаў, класных кіраўнікоў і настаўнікаў.

Новаспечаныя школьнікі ва ўрачыстай абстаноўцы пакляліся быць прыкладнымі і атрымліваць толькі выдатныя адзнакі. Да клятвы, што само сабой разумеецца, былі прыкладзеныя і "два прытопы, тры прыхлопы".

Калі ж урачыстая лінейка закрывалася, і "дырэктар" у асобе **Ігара Кірычэнкі** з 11 "Б" прапанаваў разысціся па класах, то ўчарашнія сур'ёзныя дзядзі і цёці з ганаровым званнем настаўніка са свістам закрычалі: "Дыскатэку! Дыскатэку!"

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

### Бульба ды цыбуля

*ВІЛЕЙКА. ААТ "Будпэталі" ццяперашніх і былых работнікаў бясплатна забяспечыла на зіму бульбай і цыбуляй.*

Агародніну для прадпрыемства нарыхтоўвалі калгаснікі, беспрацоўныя з цэнтра занятасці. Самім спажыўцам няма калі, бо поўнасцю занятыя на вытворчасці. Прадукцыя "Буддэталяў" ідзе на Расію - склад пусты, нічога не залежваецца. Вытворчасць пашыраецца.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Сустрэча з Паэтам

*МЯДЗЕЛ. У нарацкай СШ №1 прайшла сустрэча, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка. Дапамаглі яе правесці супрацоўнікі сельскай бібліятэкі і клуба.*

Прысутныя глядзелі слайды аб жыцці і творчым шляху славутага земляка. Дэманстравалiся краявіды возера Нарач. А вучні чыталі вершы Яўгена Іванавіча, спявалі песні на яго словы.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

### Вяскоўцы на раздарожжы

*АСТРАВЕЦ. Адной культурнай установай стала менш. Па рашэнні выканкома зачынілі дзверы бібліятэка ў вёсцы Карвэлі.*

Прычынай такога рашэння, як зазначыла загадчыца аддзела культуры выканкома **Данута Чарнушэвіч**, паслужыў недахоп чытачоў, якіх не так шмат у вёсцы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Гісторыя "Жыгулёў"

*АШМЯНЫ. Уладальнікам галоўнага прыза рэспубліканскага конкурсу педагагічнага майстэрства стала намеснік дырэктара СШ №2 Валянціна Грынчук.*

Настаўніцы гісторыі ўручылі ключы ад "Жыгулёў". Штомесяц да наступнага конкурсу яна будзе атрымліваць стыпендыю ў 2 мільёны рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

# Дэтэктыў перамагае класіку

*АСТРАВЕЦ. Аматараў пачытаць хапае. Многія бяруць кнігі ў бібліятэцы, у знаёмых, а тыя, каму дазваляе таўшчыня кашалькоў, купляюць іх у краме. Балазе, для астраўчан летам адчыніла дзверы ў адрамантаваным пад еўрастандарт гастраноме кнігарня. Ёсць таксама крамы і ў сельскай мясцовасці, а таму не пакрыўджаныя і вяскоўцы.*

- Ад пачатку года мы закупілі кніг больш чым на 160 мільёнаў рублёў, - расказвае загадчыца гандлёвага аддзела прамгандлю "Вілія" **Валянціна Трыка**. - Кнігі ў нас, калі параўноўваць з іншымі раёнамі, даволі танныя. Прычына хаваецца ў прамым супрацоўніцтве з выдавецтвамі "Беларусь", "Полымя", "Ураджай" і АТ "Мэт", што дазваляе рабіць нам на кнігі нацэнку не больш за 30 працэнтаў.

Ёсць кнігі і дэтэктыўнага жанру, і галіновыя, але цяжка знайсці на кніжных паліцах класічную і беларускамоўную літаратуру. Прычына ў тым, што першая практычна не друкуецца, з другой жа - незразумела.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Не можа быць?

## Вясёлкі

*ВІЛЕЙКА. У нядзелю каля 18.00 гараджане назіралі досыць рэдкую з'яву - над горадам навіслі ажно дзве вясёлкі.*

Па ўяўленнях нашых продкаў, вясёлка - гэта лук, з якога Пярун стрэламі-маланкамі знішчаў варожыя полчышчы Чарнабога. З'яўленне вясёлкі ўспрымаецца на Беларусі як прадвесце шчасця.

А калі дзве вясёлкі, то і шчасця ў два разы болей?

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## НЛА

*МАЛАДЗЕЧНА. Каля дзесятка чалавек сцвярджаюць, што ўвечары 5 кастрычніка назіралі ў раёне Панскага сада, што з аводнапорнай вежай, палёт НЛА.*

Было яшчэ светла, таму і дзецям, і дарослым было добра відаць бліскучую "талерку", што бясшумна манеўравала тудысюды, а потым знікла ў невядомым накірунку.

*Алесь КШТАЛТНЫ.*

# Каханне за дзяржаўны кошт



*МАЛАДЗЕЧНА. У інтэрнаце для інвалідаў і састарэлых жывуць 6 сямейных пар. Адныя засяліліся мужам і жонкай. Другія менавіта тут зарэгістравалі шлюб. З апошніх - сям'я Тарасевічаў.*

Саракагадовыя **Уладзімір і Валянціна** - інваліды з дзяцінства. Амаль усё свядомае жыццё знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні. Уладзімір з цеплынёй успамінае Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат, асабліва дырэктара **Фёдара Гольдшмідта**. Валянціна - няўдалую спробу вывучыцца на швяю. У кожнага засталіся родныя. Сёстры і брат ад Уладзіміра адмахнуліся. А вось Валянціна са сваімі сувязь падтрымлівае. Сардэчна ставіцца да яе родны дзядзька, настаўнік з Магілёўшчыны **Уладзімір Акуліч**. Высылае грошы, віншуе са святамі, настаўляе: "шануйце адзін аднаго".

У сям'і свой пакойчык з немудрагелістай мэбляй, дзяржаўным каляровым тэлевізарам. Тут разам сем гадоў, як адзін дзень. Шлюб Тарасевічаў - прадуманы крок без прызнання ў каханні пад Месяцам. Пасля года сяброўства распісаліся ў гарадскім аддзяленні ЗАГСа. Вяселле справілі сціпла. У падарунак ад адміністрацыі атрымалі асобны пакой.

Лідэра ў сям'і няма. Усё вырашаецца сумесна. Пенсія кладзецца ў агульную скрыню і разыходзіцца на прысмакі, цыгарэты для гаспадара.

Уладзімір марыць вывучыцца на вадзіцеля. Безумоўна, ніколі мара не здзейсніцца для чалавека, які ходзіць на мыліцах. Усё адно, часцяком ён выходзіць на шашу, назірае за рухам транспарту.

Тарасевічы цёпла гавораць пра інтэрнат, які стаў родным домам, пра яго работнікаў, асабліва пра санітарку **Ганну Полаз**. Успамінаюць набожныцу культарганізатара **Таццяну Асмалоўскую**.

Для звычайнай сям'і ў незвычайных абставінах дні праходзяць са сваімі адметнымі рысамі. Летам у садзе чытаюць бабулям газеты, пішуць за іх лісты. Спяваюць, наведваюць бібліятэку, глядзяць па тэлебачанні "Санта-Барбару". Валянціна вяжа на пруткох, "апранае" сябе і мужа. Уладзімір, як заўсёды, ходзіць на шашу. І так дзень за днём. З года ў год.

*Васіль САВІЦКІ.*

*Фота Аляксея ФЯЦІСАВА.*

## Сярэдняя школа на плошчы Свабоды

# Гісторыя з другой спробы



*ВІЛЕЙКА. 1 верасня 1987 г. Адкрыццё СШ №4 стала падзеяй для гараджан. Гэта была другая спроба адкрыць сярэднюю школу нумар чатыры ў горадзе.*

Першая зрабілі пасля таго, як пабудавалі новы будынак вучэльні на плошчы Свабоды. Затым, мабыць з-за непрыстасаванасці да сучасных умоў, закрылася СШ №2, якая аўтаматычна перадала свой нумар новай школе. Але вілейскія школьныя сцены сталі цеснымі для дзятвы. І горад зноў стаў будаваць чацвертую школу. Якая і пачала працаваць увосень 1987 г. Час перабудовы.

11 кастрычніка сярэдняя школа №4 у Вілейцы будзе святкаваць свой першы юбілей.

На здымку з фондаў Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея ў другі раз адкрываюць СШ №4: начальнік БУ-195 **Валерый Мацюхевіч** (з ключом), дырэктар школы **Уладзімір Бадзееў**, сакратар парткома "Зеніта" **Уладзімір Вяроўкін**.

*Мікола ГАЙДУК.*

*Фота Сяргея ГЛОБЫ.*

## З'ява ў мастацтве

# Адкрыццё спадчыны

*МАЛАДЗЕЧНА. У гісторыі мастацтва ёсць імёны, якія складаюць яго найкаштоўнейшы фонд. Да апошняга часу, на жаль, імя Дзмітрыя Крачкоўскага было вядома толькі абмежаванаму колу знаўцаў мастацтва. Хаця ён і яго творчасць заслугоўваюць, каб знаходзіцца ў лепшых творах па гісторыі мастацтва.*



Нарадзіўся будучы мастак у 1910 годзе на хутары Чаркасы, што на Смаргоншчыне. Ён паходзіў з таго роду Крачкоўскіх, які падарыў беларускай культуры шэраг таленавітых творчых асоб. Дзедам Дзмітрыя быў вядомы беларускі фальклярыст, этнограф, гісторык, педагог, выпускнік Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Юльян Крачкоўскі.

Сям'я наогул была багатая на традыцыі, у ёй належнае месца надавалася вывучэнню гісторыі, мастацтва, літаратуры. І таму, вядома, будучы творца атрымаў добрую, дасканалую адукацыю. Так сталася, што родным Дзмітрыя давялося шмат перажываць. Жыў разам з імі спачатку ў горадзе Сумы, затым у Вольску. Падчас такіх шматлікіх вандровак, сустрэч, знаёмстваў, відаць, і ўзнікла ў будучага мастака жаданне захаваць і занатаваць на паперы звязаныя з гэтым уражанні, пачуцці, адкрыцці.

Дзмітрый самастойна авалодваў майстэрствам мастака, што дало магчымасць у 1934 годзе паступіць у Віленскі ўніверсітэт на факультэт жывапісу, які ён, на жаль, не скончыў, бо пачалася вайна. Шмат прыйшлося мастаку перажыць, вынесці ад сістэмы, часу. Але гэта не зламала, не адбіла жаданне займацца любімай справай. Ён працягваў маляваць, спадзеючыся, што гэта калінебудзь убачаць, ацэняць аматары і знаўцы мастацтва.

У 1949 годзе Дз. Крачкоўскі пераязджае ў Маладзечна і працуе мастаком у кінатэатрах "Радзіма", "Камсамолец", пазней у друкарні "Перамога". Невядома, чым прывабіў мастака горад. Можа, гэта нейкім чынам гэта было звязана з тым, што яшчэ ў XIX стагоддзі ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі працаваў настаўнікам рускай мовы Юльян Крачкоўскі?

З творчай спадчыны Дз. Крачкоўскага захаваліся, у асноўным, графічныя творы. Яны расказваюць аб дарагіх сэрцу творцы людзях, мясцінах. "Вільня", "Валожын. 1940", "Каля ракі", "Ваколіца", "Ветраны дзень" і іншыя. Назвы твораў, як і сюжэтаў, вельмі простыя. Але менавіта ў гэтай прастаце і закладзены глыбокі змест, праўда адлюстравання. Кожны твор мастака дыхае жыццём. Мякка, лірычна, з пяшчотай выпісаныя дэталі.

Дз. Крачкоўскі быў не толькі добрым мастаком-пейзажыстам, але і выдатным партрэтыстам. Ён тонка адчуваў натуру. Дакладнасць характара партрэтуемых дасягалася трапяткой лініяй. Складаецца ўражанне, быццам мастак на адным узыханні стварае свае глыбока псіхалагічныя партрэты.

15 жніўня 1996 года ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску праходзіла выстаўка графічных твораў старэйшых маладзечанскіх мастакоў.

Сярод партрэтаў Ядвігі Раздзялоўскай былі выстаўлены і творы Дзмітрыя Крачкоўскага. Гэтая выстаўка стала выстаўкай адкрыцця і вяртання. Адкрыцця спадчыны мастака для больш шырокага кола аматараў і знаўцаў мастацтва. І разам з тым, вяртання да тых, хто яго ведаў і любіў яго творчасць. Бо, як вядома, творы Дз. Крачкоўскага ўжо экспанаваліся 31 год таму ў Маладзечне. Менавіта ў 1966 годзе праходзіла выстаўка прафесійных мастакоў горада, дзе сярод іншых выстаўляліся і графічныя серыі, партрэты Дз. Крачкоўскага.

На жаль, мастака ўжо няма з намі. Але, як добры ўспамін аб гэтым шчырым, сціплым чалавеку і мастаку, заўсёды будуць нагадваць яго творы, якія ў свой час былі перададзеныя ў Нацыянальны мастацкі музей, дзе яны і захоўваюцца па сённяшні дзень.

Імя Дз. Крачкоўскага і яго творчасць - сапраўдная з'ява ў беларускім мастацтве. І з часам яна зойме пачэснае месца ў яго гісторыі.

*Ірына ЗУБРЫЦКАЯ, навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея.*

# Стараверы



***АСТРАВЕЦ. Не адно пакаленне стараверaў нарадзілася на Астравецкай зямлі. Іх нашчадкі і сёння выдатна суіснуюць побач з намі. Вядома, продкі іх выбіралі месцы для жыцця самыя глухія, спадзеючыся навек адасобіцца ад людзей. У гэтым можна з лёгкасцю пераканацца і сёння, калі наведаеш мясціны іх пражывання.***

Ад некалі немалой вёскі Стрыпішкі цяпер не засталося практычна нічога. Адна старая драўляная царква мясцовай абшчыны, паўразваленая хата, дзе яшчэ дваццаць год таму жыў святар са сваёй сям'ёй, ды зарослы хмызняком фундамент былой школы, якая таксама дзейнічала яшчэ чвэрць веку назад. На жаль, больш не засталося анічога і увогуле пра тое, што тут некалі быў населены пункт, здагадацца сёння вельмі цяжка. Уражанне нейкай патаемнасці і загадкавасці адразу ж ахутвае цябе пры знаёмстве з гэтай мясцінай.

## Царква

Сама царква стаіць на водшыбе, ля самай граніцы з Літвой, не ўдалося ёй пазбегнуць варварскага спустошання сучасніка. Выдзертыя аканіцы, скрадзеныя абразы, якія чамусьці не паспелі спарадкаваць у свой час, разбітыя і пустыя пляшкі, смецце. Усё гэта было да нядаўняга часу, пакуль не пасяліліся тут сям'я Смірновых. Нават за некалькі дзён, што пражылі яны тут, многае паспелі зрабіць: прыбраць смецце, абкасіць траву вакол царквы, забіць вокны, каб не лазілі няпрошаныя госці. Ні ўпрыгожванняў, ні званоў, ні алтара - голы каркас застаўся ад былой царквы. А было ж і тут калісьці шумна і людна. У кожнае свята ішла служба, чуўся цудоўны і меладычны спеў. Гарэлі свечкі, і дружна схілялі галовы мужчыны на сваёй палове храма, жанчыны - на сваёй. Апошнія маглі маліцца толькі тады, калі галава была пакрытая вялікай белай хусцінай, якая ні ў якім разе не завязвалася, а прышпільвалася пад падбароддзем. І плыў, клікаў голас званоў стрыпішскіх мясцовых стараверaў у іншы свет, свет божы, які ўзвышае чалавека і дае магчымасць спазнаць Ісціну.

## Апошні прытулак

Тыя, хто жыў ці жыве ля Стрыпішак, свой апошні прытулак знаходзяць на мясцовых могілках. Ад царквы яны даволі далёка, размешчаныя ў прыгожым месцы, на ўзгорку, і заўсёды знаходзяцца ў ідэальным парадку. Раз у год, на свята Тройцы, з'язджаюцца сюды ўсе крэўныя і знаёмыя тых, хто спачывае тут.

Кожная магілка не абдзеленая ўвагай. Ёсць у той ці іншай радня альбо не - распазнаць можна. Як правіла, адныя літаральна палымнеюць натуральнымі і штучнымі кветкамі, унушальна глядзяцца сучасныя дарагія помнікі з мармуру, якія ў сваю чаргу аздоблены фотаздымкамі памерлых, людзей, якія знешне выглядаюць даволі каларытна - суровыя, з доўгімі густымі барадамі ў мужчын. Астатнія ж магілкі проста сціпла засаджаныя яснымі ландышамі ці просценькімі гарадскімі кветкамі. Але ўсё адно паўсюдна захоўваецца адмысловая чысціня і парадак. Уражвае таксама мноства маленькіх магілак, ужо кранутых пячаткай часу, але таксама чысцюткіх. Відаць, з-за адсутнасці медыцынскай дапамогі даўней шмат памірала немаўлят.

## Знаёмства

Гаўрыла Плотнікаў, жыхар вёскі Ясень Падольскага сельсавета - адзін са старэйшых прадстаўнікоў стараверaў. Гаспадару 88, хоць на выгляд дасі максімум 70. Гаваркі, прыемны і надзвычай гасцінны чалавек. Адчуваецца, гадам улік ён не вядзе, памятае, з якога года - і добра. Старасці не шукае, але і не бяжыць ад яе. Увесь дзень у рабоце - такая звычка. У хаце і вакол яе адмысловы парадак, адчуваецца, што і гаспадыня Анастасся на сваім месцы. Трымаюць гаспадарку, як і ўсе вяскоўцы. Каня Гаўрыла любіць больш за астатнюю жыўнасць, ды па-іншаму ніяк - у гаспадарцы ж як без яго.

Плотнікаў захоўвае ўсе традыцыі "старой веры" - не п'е, не курыць, традыцыйна сустракае асабліва значныя святы папярэднім сямітыднёвым постам, у час якога - ані нават малака. Тое ж самае і кожную сераду і пятніцу. Выгадавалі яны з жонкай чатырох сыноў і дачку. Дзеці шануюць бацькоў, часта наведваюцца з унукамі. Каб старыя не цягалі з калодзежа ваду, правялі водаправод - да хаты і ў хлеў. Увогуле, сучаснасць ужываецца з устоямі "старой веры". Што ні кажыце, але гэтая вера цярпімая. Яе прадстаўнікі ніколі нікуды не ўмешваюцца, даюць кожнаму магчымасць выбіраць свой шлях у жыцці і жадаюць толькі аднаго - каб і ім не перашкаджалі жыць так, як яны лічаць правільным. Урэшце рэшт, кожны сам адказвае за свае грахі. А Бог - ён усё адно адзін для ўсіх.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ, фота Уладзіміра АГЛОБЛІНА.*

**Крымінал, здарэнні**

## Народныя лекары

***АСТРАВЕЦ. У адзін з нядаўніх сонечных дзён у райцэнтр наведаліся тры жанчыны з Украіны.***

Адзінокая мясцовая кабета згадзілася прадаставіць ім дах над галавой (яна не адзін год хварэла, і ўрачы не маглі дапамагчы, а тут "начлежніцы" браліся яе вылечыць). Гаспадыня аддала два мільёны "вушастых" і 20 долараў ЗША, якія прыхоўвала на "чорны" дзень. Украінкі пашапталі над бабулькай, заварылі ваду, а на раніцу пайшлі ў невядомым накірунку.

Знахаркі пакінулі дом, і бабулька ўцяміла, што хвароба як была, так і засталася, а вось грошы зніклі. Кінулася па дапамогу да пагранічнікаў. На той момант пошукі нічога не далі, але праз тры тыдні госці зноў завіталі ў Астравец. "Зялёныя фуражкі" іх чакалі і перадалі ў міліцыю.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Пракуратура не пагаджаецца з мытняй

***АСТРАВЕЦ. На КПП Катлоўка адзін з інспектараў Астравецкай мытні не праверыў неабходныя дакументы на груз, у выніку чаго нанесены значны ўрон бюджэту - больш за мільярд рублёў.***

Два аўтафургоны МАЗ, загружаныя амаль 40 тонамі шакаладу, рушылі з Літвы ў Маскву. Справай заняліся праваахоўныя органы, а пракуратура раёна ўзбудзіла крымінальную справу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Дзе мой чорны пісталет?

***АСТРАВЕЦ. У жыхара Літвы пры перасячэнні мяжы ў пункце пропуску Лоша пагранічнікі знайшлі газавы пісталет.***

Паколькі гаспадар сваёй зброю не прызнае, праваахоўныя органы праводзяць праверку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Жыў-быў хлопец. Маці болей не жыве

***АСТРАВЕЦ. Жыў-быў у вёсцы Кушляны Раман Урлік. Звычайны хлопец, на першы погляд, якіх у любой вёсцы хапае.***

За плячыма былі школа, войска. Працаваў у тамтэйшым калгасе, а жыў у адным доме са сваёй старэнькай маці. Пасля работы заняцца не было чым, і, часцей за ўсё, разам з хлопцамі заглядалі раз-пораз у бутэльку. А што яшчэ рабіць? На дыскатэку ці ў кіно не пададзіся, бо з'ява гэта рэдкая. Дый на танцы ўжо хадзіць не вельмі хацелася - усё ж не 16 гадоў.

У той ракавы вечар ён з сябрамі "перакуліў не адзін кілішак гарэлкі. Гэтага падалося мала і разам з Чаславам Градзем вырашыў прадоўжыць прыемную працэдуру ў сябе дома. Вырашана - зроблена. Неўзабаве горкая парачка накіравалася працягваць застолле. Толькі пераступілі парог дома, як Урлік убачыў маці, якая спала за сталом. Ён адразу накінуўся на яе.

- Ты што, старая, зноў напілася? - прашыпеў сын. - У хаце не палена, карова зноў не доеная, а яна піць занялася! Хоць бы есці згатавала, а то "укалываю" на рабоце, ды яшчэ і ў хаце "шуршаць" трэба!

Пасля гэтых слоў ён з усёй моцы ударыў маці кулаком па твары. Тая звалілася на падлогу.

- Што ж ты робіш? - спахапіўся сябрук, адцягваючы Рамана ад маці.

Той апамятаўся. Разам яны паднялі маці з падлогі і пасадзілі на ложак. Затым выйшлі ў сенцы. Часлаў прамовіў:

- Навошта ты так? Маці ўсё ж. Супакойся, ідзі лепш кладзіся спаць, а я таксама пацягнуся дамоў.

Яны развіталіся, дамовіўшыся назаўтра сустрэцца перад работай. Раман вярнуўся ў хату і... узяўся за сваё. Сцягнуў з ложка маці і пачаў біць нагамі. Тая курчылася ад болю, прасілася. Сілы яе пакідалі, і гэта бачыў сын. Ён схапіўся за дошку і пачаў са злосцю біць ёй, а калі ўбачыў, што жанчына страціла прытомнасць, прыціснуў каленам амаль нежывое цела да падлогі і пачаў выбіраць грошы з вопраткі.

- Так будзе лепш, а то зноў усё прап'еш, хлеба не будзе за што купіць, - працадзіў праз зубы.

Напярэдзе была ноч. Гарэлка ўзяла ўладу над Раманам, зрабіла сваю справу - ён заснуў. Маці ляжала на падлозе, прасіла падаць вады. Праз сон гэта чуў і Урлік. Да раніцы маці не дажыла.

А сын на наступны дзень прачнуўся і, як нічога не было, накіраваўся на работу. Крыху пазней труп маці знайшла суседка, якая выпадкова зайшла ў хату.

Суд Рамана Урліка пазбавіў волі на 9 гадоў з адбыццём тэрміну ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

*Віктар КАРАЛЯШ, следчы пракуратуры.*

**Як вас абслугоўваюць?**

## Спажывец абараняецца

***МАЛАДЗЕЧНА. Таварыства абароны спажыўцоў існуе тут роўна год. Але арганізацыйна, як юрыдычная асоба, аформілася толькі ў канцы жніўня-пачатку верасня.***

Таварыства мае 14 чалавек заснавальнікаў, 11 жніўня запрошаны ў склад праўлення і выбраны яго старшынёй **Уладзімір Клешч.**

Мясцовыя кіраўнікі падтрымліваюць Таварыства і тыя дзяржструктуры, што займаюцца гэтай праблемай. У выканкомах ёсць спецыялісты па гандлі і абароне правоў спажыўцоў **Алена Місюкевіч і Таццяна Паўлава**, якія сумесна з таварыствам рашаюць пытанні спажыўца і кантралююць пасрэдніка і вытворцу.

Толькі за другую палову жніўня старшыня Таварыства У. Клешч дапамог вырашыць праблемныя пытанні больш чым дзесятку спажыўцоў. Вось некаторыя прозвішчы: **Г. Белавусаў** атрымаў за 8 млн. руб. за няспраўны халадзільнік "Атлант", **Н. Чаўлытка** за абутак 470 тыс., **Т. Бажко** за няякасны выраб кофты "Гольф" у адным з атэлье горада 143 тыс. Спажыўцу **Г. Рубан** з Гарадзілава за тэлевізар "Гарызонт", які быў за гэты час чатыры разы ў рамонце ў адной з майстэрняў гарадской прыватнай фірмы, нарэшце выдалі фірменную даведку аб замене няякаснага тэлевізара. **Г. Русаковіч** з Вілейкі дапамаглі аформіць дакументы на замену тавару ці вяртанне 550 тыс. руб. за купленыя ў прадпрымальніка-камерсанта басаножкі.

Сёння ў таварыстве аказваецца юрыдычная дапамога - кансультацыі, складанне прэтэнзій (заяў, скаргаў) для дасудовага ўрэгулявання спрэчак. Працуе юрыст, з якім заключаны кантракт тэрмінам пакуль на адзін год. Бо неабходна не толькі абараніць спажыўца, але і не пакрыўдзіць пасрэдніка, вытворцу.

На жаль, часам перашкаджаюць сваёй некампетэнтнасцю чыноўнікі, хаця добра ведаюць рашэнні і пастановы, дзе мясцовым органам улады загадана падтрымліваць грамадскія аб'яднанні абароны правоў спажыўцоў, выдзяляць ім службовыя памяшканні, тэлефоны, аказваць матэрыяльную дапамогу. На справе ж, да гэтага часу не ўключаны тэлефон (хто будзе плаціць за яго? - спрачаюцца між сабой ведамствы), няма пішучай машынкі, канцылярскіх прыбораў і прыналежнасцяў. Затое мае таварыства мэблю дваццацігадовай даўнасці, замок з адным ключом.

- Каб не падтрымка дырэктара політэхнікума **А. Выбарнава**, дапамога членаў праўлення **Т. Мікуліч, М. Мартынава, А. Місюкевіч, Т. Паўлавай**, напэўна,- гаворыць У. Клешч,- пайшоў бы ў адстаўку.

*Сяргей СПАЖЫЎЦОЎ.*

